Bialystok, den 5. Juli 1942
Nr 15

NEUER WEG
Weissruthenische Wochenzeitung für den Bezirk Bialystok

PREIS 20 PF.
Цана 20 фнг.

# НОВАЯ ДАРОГА

Беларуская тыднёвая газэта на Беластоцкую Акругу

Verlag: Sturmverlag G. m. b. H. Zweigniederlassung Bialystok, Lindenstr. 64, Tel. 437 — Bankkonto Stadtsparkasse 700. Anzeigenpreise: z. Zt. ist die Preisliste 1 gültig.

Беласток
5-га ліпеня 1942.

Адрас Рэдакцыі: Sturmverlag G. m. b. H. Zweigniederlassung Bialystok, Lindenstr. 64, Tel. 437—
Банкконто Гарадзкая Каса Ашчаднасьці 700
Цана абвестак паводле лісты цэнаў 1.

## Маршал Маннэргэйм у Фюрэра

**5 чэрвеня Фюрэр і Найвышэйшы Галоўнакамандуючы Арміі ў таварыстве гэнэралфэльдмаршала Кэйтэля злажыў маршалу Фінляндыі барону Маннэргэйму з нагоды яго 75 угодкаў нараджэньня візыту ў аднэй з мясцовасьцяў за фронтам і перадаў фінскаму герою, барацьбіту за волю Фінляндыі шчырыя пажаданьні нямецкага народу й нямецкае арміі.**

**У вадказ на гэта Маршал Маннэргэйм злажыў Фюрэру рэвізыту. У таварыстве гэнэраллейтэнанта Туомпо, шэфа каманднага штабу галоўнага фінскага камандаваньня, іншых афіцэраў і нямецкага афіцэра ў Галоўнай Фінскай Кватэры, гэн. пяхоты Эрфурта, фінскі галоўнакамандуючы прыбыў 27-га чэрвеня ў Галоўную Кватэру Фюрэра.**

**Спатканьне абодвух мужоў, якія ў глыбокім жаўнерскім саюзе на поле бітвы вябокім жаўнерскім саюзе на полі бітвы вянародаў супроць бальшавізму, было абвеяна сэрдэчнай прыязьню. Візыта была нагодай для правядзеньня дакладных мілітарных нарадаў абодвух галоўнакамандуючых.**

**Апаўдні Правадыр зрабіў прыняцьце ў знак пашаны маршала Фінляндыі. Як галоўнакамандуючы арміі, Фюрэр пазнаёміў папаўдні свайго гасьця з афіцэрамі Галоўчага Камандаваньня Збройнае Сілы.**

**На заканчэньне свайго побыту Маршал Фінляндыі гасьціў у Райхсмаршала Гэрмана Гёрынга ў яго Галоўнай Кватэры.**

Маршал Маннэргэйм прыбыў на лётнішча недалёка ад Галоўнай Кватэры Фюрэра ў 10 гадзін 27 чэрвеня. Фюрэр для аказаньня гасьцю асаблівае пашаны вызначыў яму свайго галоўнага ад'ютанта Збройнае Сілы, гэнэрал-маёра **Шмундта.** На лётнішчы прывіталі Маршала шэф Галоўнага Камандаваньня Арміі, гэнэрал-фэльдмаршал Кэйтэль з гэнэралам артылерыі Іодлем і асабістым ад'ютантам Фюрэра, кіраўніком аддзелу **SS**, **Шаубом.** Ганаровы аддзел на чале з афіцэрам, адзначаным Рыцарскім Крыжам, здаў Правадыру Фінляндыі ганаровы рапарт. Прайшоўшы перад фронтам ганаровага аддзелу ў таварыстве фэльдмаршала Кэйтэля, Маршал Маннэргэйм накіраваўся ў сваю Кватэру, дзе хутка адведаў і шчыра прывітаў яго Фюрэр.

У Галоўнай Кватэры Фюрэра адбыліся **дакладныя ваенныя нарады** і справадачы аб сытуацыі. На гэтую канфэрэнцыю былі запрошаны ў прысутнасьці гэнэрал-фэльдмаршала **Кэйтэля:** шэф гэнэральнага штабу гэнэрал-палкоўнік **Гальдэр,** гэнэрал артылерыі **Іодэль** і нямецкі гэнэрал у Фінскай Галоўнай Кватэры, гэнэрал пяхоты **Эрфурт,** а з фінскага боку шэф каманднага штабу ў фінскім галоўным камандаваньні, гэнэраллейтэнант **Туомпо**, фінскі гэнэрал пры нямецкім галоўным камандаваньні, гэнэраллейтэнант **Тальвэля** і фінскі ваенны атташэ ў Бэрліне, палкоўнік **Горн**. Абгаварэньне сытуацыі адбывалася пад знакам выдатнага супрацоўніцтва нямецкае й фінскае Збройнае Сілы на супольным абшары вайны расейскага паўночнага фронту, а таксама пад уражаньнем перамог саюзьніцкіх дзяржаваў на ўсіх франтох.

Пасьля нарады адбыўся абед, на якім прысутныя былі выдатныя асабістасьці з нямецкіх вайсковых і палітычных кругоў, з якімі Маршал Маннэргэйм меў нагоду пазнаёміцца.

Папаўдні Фюрэр, як галоўнакамандуючы Збройнае Сілы, пазнаёміў госьця з мэтадам працы й уладжаньнямі Галоўнага Камандаваньня Арміі. Маршал Маннэргэйм у таварыстве фэльдмаршала Кэйтэля й гэнэрал-палкоўніка Гальдэра дакладна ўсё аглядзеў. Наступна Фюрэр у таварыстве Маршала Фінляндыі ўдзельнічаў на таварыскай зборцы афіцэраў Галоўнага Камандаваньня, прычым былі прысутныя гэнэралы Кэйтэль, Гэрцке, Фэльлгібэль і Іакоб.

Пасьля некалькігадзіннай гутаркі, заканчэньня канфэрэнцыі й глыбейшага зацясьненьня асабістае прыязьні, якое ўжо наступіла падчас імяніпаў Маршала Маннэргэйма, Фюрэр і Маршал Фінляндыі разьвіталіся найбольш сэрдэчна й шчыра.

Моцна сьціснутыя рукі Першага Жаўнера Вялікай Нямеччыны і гэроя барацьбы за свабоду сьмелага фінскага народу, — былі сымбалічным выражэньнем нязломнага загартованага ў барацьбе братэрства аружжа абодвух народаў.

Ніхто ня мог устрымацца ад захапленьня постацьцю Маршала Фінляндыі, які апрача найвышэйшых фінскіх адзначэньняў меў на мундуры атрыманы ад Фюрэра Рыцарскі Крыж да Жалезнага Крыжа за вызваленьне Выбаргу і нядаўна атрыманы з нагоды 75 угодкаў нараджэньня Залаты Вялікі Крыж ордэру нямецкага Ордэру Арла. Постаць Маршала Маннэргэйма ёсьць выражэньнем жаўнерскае гатоўнасьці й станоўчасьці адважнага фінскага народу, які пасьля цяжкой вайны ўзімку 1939/40 г. ізноў стануў плячо ў плячо з нямецкай арміяй і жаўнерамі іншых саюзьніцкіх дзяржаваў у вайне супроць бальшавізму. Нямецкі народ напэўна выказаў-бы свае энтузыястычнае захапленьне гэтым заслужаным фінскім гэроем барацьбы за свабоду фінскага народу. Але гэткую візыту, у якой прыняло-б удзел нямецкае грамадзянства, з увагі на вайну трэба адлажыць па пазьней. Але сэрцы нямецкага народу гэтак сама адкрыты й адданы для гэтага мужа, як і ў дзень 75 угодкаў яго нараджэньня. Гэты чалавек увасабляе ў сабе выдатным чынам уласьцівасьці жаўнера, якія здаўна свомы ў высокай ступені сьмеламу фінскаму народу.

Маршал Маннэргэйм у сувязі з візытай у Фюрэра адведаў таксама Райхсмаршала **Гэрмана Гёрынга** ў яго галоўнай кватэры, дзе ён начаваў са сваёй сьвітай.

Райхсмаршал зрабіў вечарам для паважанага госьця прыняцьцё, на якім быў цэлы рад выдатных асабістасьцяў. Пры гэтай нагодзе Райхсмаршал Гёрынг уручыў Маршалу Фінляндыі **Залатую Лятунскую Адзнаку з брыльлянтамі,** як знак сяброўскай сувязі нямецкага лятунства з фінскай Збройнай Сілай і яе Правадыром. Маршал Фінляндыі, узрушаны гэтым, падзякаваў за гэтае адзначэньне, якое, як ён сказаў, прыняў не для сябе, а для сваіх жаўнераў.

28-га чэрвеня перад поўднем Маршал Маннэргэйм, пасьля даўгой гутаркі з Райхсмаршалам, вярнуўся самалётам у сваю Галоўную Кватэру.

## Найвялікшая крэпасьць сьвету— Сэвастопаль — здабыта.

**Як паведамляе Галоўнае Камандаваньне Арміі ў Надзвычайным Камунікаце з 1-га ліпеня, Сэвастопаль — найвялікшая крэпасьць сьвету — паў у 21.15 гадзін на 25 дні штурму. Места і порт знаходзяцца ў нямецкіх руках. Са здабыцьцём Сэвастопаля ўсё Чорное мора знаходзіцца пад нямецкім кантролем. Колькасьці здабытага ваеннага матарыялу й захопленых палонных яшчэ нельга агарнуць.**

## ВАЙНА

Удары, якія наносяць дзяржавы восі, ня спыняюцца. Падпальшчыкі вайны,— маскоўскія імпэрыялісты і іх родныя браты ангельскія і амэрыканскія плютакраты,— як кажуць, нос павесілі. Іх тайныя дагаворы, аб якіх ведае ўжо ўся Эўропа, памогуць ім, як кашаль хваробе. Няхай падпісваюць яны іх, колькі схочуць. Нямецкі жаўнер і яго саюзьнікі сваім аружжам, сваім баявым высілкам пішуць гэтым збанкрутаваўшым праступнікам што іншае. І нічога іх не ўратуе.

Апошні тыдзень ваенных падзеяў прынёс далейшыя бліскучыя посьпехі дзяржавам восі на ўсіх фронтах барацьбы.

**На Усходнім фронце** пераможная барацьбе нямецкіх і румынскіх войск супроць **Сэвастопаля** закончылася бліскучай перамогай. Супраціў ворага быў зламаны, як мы ўжо падавалі, на паўночным адрэзку крэпасьці. Тут нямецкія і румынскія войскі дайшлі на паўночнага берагу г. зв. **Севернай затокі.** Сьмелай атакай пры моцным падтрыманьні паветраных баявых сілаў здабыты праход глыбокай **даліны Чорная.** Таксама здабыта і моцна выбудованая пазыцыя на ўзвышшы **Сапун.** У выніку гэтых асягненьняў затокі Сэвастопаля былі пад беспасярэднім агнём дзеяньня нямецкай артылерыі. Аддзелы піянэраў вялі інтэнсыўнае ачышчаньне баёвага перадпольля ад мінаў, ствараючы праходы для маланковых штурмаў пяхоты. Як падае Галоўнае Камандаваньне Арміі, да 28 чэрвеня захоплена 15.667 палонных, здабыта 2.579 бункераў, 462 гранатамёты і 221 гармат. Бязупынна падтрымліваючае дзейяньні надземных войск лятунства затапіла ў водах Сэвастопаля 1 зьнішчальнік і падводную лодку ворага. **На 25 дзень штурму Сэвастопаль быў здабыты.**

На паўдзённы ўсход ад **Фэадосіі** затоплены савецкі зьнішчальнік бомбай цяжкога калібру. Спроба ворага пад прыкрыцьцём ночы правясьці высадку на **Керчанскім** перашыйку была зьнішчана агнём прыбярэжнае абароны яшчэ далёка ад берагу.

**На ўсход ад Данца** праводзіліся мясцовыя танкавыя атакі, дзякуючы якім зьнішчана шмат варожых танкаў.

**На ўсход ад Харкава** акружана і зьнішчана адна далейшая савецкая дывізыя.

На **сярэднім адрэзку** фронту часьці аднэй пяхотнай дывізыі, ня гледзячы на распачлівы супраціў ворага, здабылі звыш 220 варожых бункераў. У далейшым вядзецца ачышчаньне ад бальшавіцкіх бандаў зафронтавай паласы.

Як паведамляецца ў Надзвычайным Камунікаце, у лютым с. г. 2-й савецкай ударнай арміі а таксама часткам 52-й і 59-й савецкіх арміі ўдалося праз замёрзшы Волхаў на поўнач ад Ільменскага возера прабіцца ў глыб нямецкага фронту абароны. Нямецкія войскі і аддзелы SS пад кіраўніцтвам гэнэрала кавалерыі Ліндэмана пры выдатным падтрыманьні паветранага флоту пад кіраўніцтвам гэнэрал-палкоўніка Кэльлера пасьля месячных заўзятых баёў адрэзалі варожыя арміі ад іх тылавых спалучэньняў, сьціскаючых іх усё больш і больш у абручы замкненьня. Цяпер гэтыя арміі **аканчальна зьнішчаны.** Гэтым самым дашчэнту зьліквідована спроба ворага правясьці прарыў праз Волхаў, каб вызваліць з нямецкіх абцугоў Ленінград. У гэтых баёх прыймалі выдатны ўдзел гішпанскія, галяндзкія і флямандзкія дабравольцы. Барацьба вялася ў надзвычай цяжкіх умовах надвор'я і мясцовасьці. Паводле дасюлешніх тымчасовых аблічэньняў вораг страціў 649 гарматаў, 171 танк, 2904 кулямёты і гранамёты, а таксама вялікую колькасьць іншага ваеннага матарыялу. Захоплена 32.759 палонных. Крывавыя страты ворага перавышаюць многакротна лік палонных. Цяжкая нямецкая артылерыя далей абстрэльвае скуткоўна прамысловыя аб'екты **Ленінграду** і караблі ў **Кранштадзкім** порце. У Фінскай затоцы затоплена баявымі самалётамі некалькі савецкіх гандлёвых караблёў.

У раёне **Мурманска** злучэньні баёвых і стрымгаловых самалётаў закідалі бомбамі жалезнадарожныя ўладжаньні і склады, у выніку чаго ўзьніклі вялікія пажары. Ахоўваючыя ганчакі ў адным з налётаў

(працяг на 2-ой бачыне)

